



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 49 (1084) БЕЛАСТОК 5 СНЕЖНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## Пуцяводныя думкі

Самы павольны чалавек, які не губляе з вачэй сваёй мэты, ідзе шпарчэй за таго, хто блукае без мэты.

*Г. Лесінг*

Гора людзям, якія не ведаюць сэнсу свайго жыцця.

*Б. Паскаль*

Закон неабходнасці з ранняй пары навучае чалавека рабіць тое, што яму не падабаецца, каб папярэдзіць зло, якое яшчэ больш не прышло б яму да спадобы.

*Ж. Ж. Русо*

## 20 год кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта

Дваццаць год таму назад, у 1956 годзе, галоўным чынам дзякуючы намаганням дзеячоў БГКТ, была адкрыта ў Варшаўскім універсітэце кафедра беларускай філалогіі. Арганізатарам і многагадовым кіраўніком яе была праф. Антаніна Абрэмбская-Яблонская. На пачатку свайго існавання кафедра перажывала вялікія цяжкасці ў сувязі з недахопам высокакваліфікаваных спецыялістаў па беларусазнаўству. Вялікую дапамогу ў вырашэнні гэтай праблемы аказала Савецкая Беларусь. Ад 1956 да 1958 года выкладалі на кафедры дацэнты Васіль Бірыла — Акадэмія навук БССР і Мікалай Тарасаў — Мінскі педагагічны інстытут. На працягу наступных двух гадоў замяніла іх пара вучоных: Аркадзь Жураўскі — Акадэмія навук БССР і Міхась Лазарук — Мінскі педагагічны інстытут. Апрача іх прыязджалі на кафедру з лекцыямі такія беларускія вучоныя, як М. Ларчанка, Л. Шакун, А. Мальдзіс, А. Лойка, Н. Гілевіч і многія іншыя. Дапамога БССР праявілася ў тым, што ўсім маладым супрацоўнікам кафедры былі створаны магчымасці выезду на многагадовыя навуковыя стажыроўкі ў бібліятэкі і архівы Мінска. На гэтых стажыроўках знаходзіліся Э. Смулкова, А. Багроўская, М. Урублеўскі і аўтар гэтага артыкула. І зараз асістэнтка кафедры В. Глушкоўская праходзіць у Мінску трохгадовую стацыянарную аспірантуру, а асістэнтка З. Скібінская — трохгадовую завочную аспірантуру.

У сваю чаргу кафедра беларускай філалогіі прымае ў сябе маладых навуковых супрацоўнікаў з Савецкай Беларусі. Былі ў нас на многамесячных стажыроўках супрацоўнікі Беларускага універсітэта і Акадэміі навук БССР Пальцаў, Вярэніч, Саламевіч.

Некалькі месяцаў таму назад рэктар Варшаўскага універсітэта праф. Зыгмунт Рыбіцкі падпісаў і выслаў у Мінск абшырны план супрацоўніцтва Варшаўскага універсітэта з Беларускім дзяржаўным універсітэтам у Мінску, у якім галоўны націск кладзецца на супрацоўніцтва нашай кафедры з кафедрамі беларускай літаратуры і беларускай мовы ў БДУ.

Варта глянуць на дваццацігадовую гісторыю кафедры праз прызму адукацыі студэнтаў. На працягу многіх гадоў студэнты на беларускую філалогію набіраліся не кожны год, а толькі праз год. Два гады таму назад універсітэцкія ўлады згадзіліся на рэгулярны штогадовы набор 15-ці чалавек. Практычна ўсе нашы студэнты абяспечаны стыпендыяй, якая ў залежнасці ад ацэнак, атрыманых на экзаменах, вагаецца ад 1200 да 1700 зл. у месяц, месцам у інтэрнаце, таннай сталовай.

У адрозненне ад рускай філалогіі, якая зараз мае перш за ўсё настаўніцкі профіль і ў якой навучанне працягваецца чатыры гады, беларуская філалогія засталася аддзяленнем, якое мае дадатковую рускую спецыялізацыю і на якім адукацыя адбываецца на працягу пяці гадоў. Пасля заканчэння беларускай філалогіі яе выпускнікі могуць, але не мусяць працаваць у школе.

У апошнія гады наладзілася добрае супрацоўніцтва паміж кафедрай і беларускімі ліцэямі ў Бельску і Гайнаўцы. У сувязі з гэтым няма ніякіх цяжкасцей з наплывам добрай моладзі на наш напрамак.

Ад 1961 года, калі кафедру пакінуў першы выпуск, да сёння закончыла беларускую філалогію каля 100 магістраў. Каля 80% выпускнікоў спецыялізавалася ў галіне гісторыі беларускай літаратуры, астатнія — у мовазнаўстве. Ужо трое выпускнікоў беларускай філалогіі абаранілі доктарскія дысертацыі. У бліжэйшыя два гады абароняць наступныя дзве асобы.

Вяртаючыся да студэнцкіх спраў, варта падкрэсліць, што ад пачатку існавання кафедры да сёння амаль на кож-

(Працяг на стар. 4)



▲

## Беларуская песня-76

*Люба Сабалеўская з Дубічаў Царкоўных. Яна заняла трэцяе месца сярод салістаў у катэгорыі сучаснай песні.*

**Фота Я. Цялушэцкага**

## Іван Білеўскі і другія

Часта солтыса называюць гаспадаром вёскі. У Стараберазове (Гайнаўская гміна) солтысам з'яўляецца Іван Білеўскі. Выбралі яго сяляне два гады таму назад, неўзабаве пасля таго, як вярнуўся ён з войска і пачаў гаспадарыць разам са сваімі бацькамі.

Засталі мы яго пры выважэнні з хлявоў гною на поле. Да ўласнага трактара быў дачэплены воз-балон.

І пачалі мы гутарку аб справах вёскі, аб пераменах, якія наступілі ў жыцці вёскі падчас народнай улады. А калі закранулі пытанне аб яго гаспадарцы, солтыс адразу „сыпнуў" нам цэнтнерамі. І так, бульбы — 300 ц з гектара, жыта — 25 ц, пшаніцы і ячменю — па 30, рапсу — 20 ц, а ільну-саломы — па 5 тон з гектара. Прадалі Білеўскія дзяржаве 10 тон льняной саломы і атрымалі за яе 50 тыс. зл. У Стараберазове сёлета пад гэтай культурай было больш 80 га. Сяляне вёскі сеюць таксама больш чым на 100 га рапс. Стараберазоўцы атрымоўваюць шмат грошай за малако. Летам вёска здае каля 2 тысяч літраў штодзённа, а Білеўскія больш 30 літраў. Гадуюць яны 5 кароў і 6 штук маладняку. Развіваюць свінагадоўлю. Цяпер у іх 8 падсвінкаў і свінаматка, якая ў год дае два апаросы. Свінагадоўля ў іх на добрым шляху, будынкі для гэтага адпаведныя, і кармавая база ўласная. Нядрэнная таксама хата Білеўскіх, але хочуць мець яны значна лепшую, цяпер рыхтуюцца да яе пабудовы. Але перад гэтым 24-гадовы солтыс думае яшчэ ажаніцца. Цяпер жа на вёсцы, калі на гаспадарцы хапае рабочай сілы і ёсць ахвота да працы, можна жыць заможна і культурна.



*Солтыс вёскі Іван Білеўскі.*

Значна аблягчаюць сялянскую працу машыны. Іх у Стараберазове даволі многа. Найбольш іх, аж 15 штук, у Івана Трахімюка. Амаль у кожнага гаспадара ёсць свой сеўнік і касілка. Большасць жыхароў вёскі мае тэлевізары, крайзэгі, лядоўкі, прыгожую мэблю. Шмат у Стараберазове матацыклаў, 20 гаспадароў маюць свае ўласныя трактары, 30 гаспадароў — легкавыя машыны, а Іван Трахімюк, Міхась Кірылюк, Васіль Шпілько і Пётр Кубайчук маюць і трактар і легкавую машыну.

У Стараберазове шмат раменнікаў. Ёсць каму мураваць, штукатурыць хаты, прыгожа памаляваць пакоі, аканіцы, шчыты і вуглы дамоў, ёсць каму наладзіць тэлевізар, адрамантаваць трактар ці іншую машыну, падкаваць каня, ці зрабіць іншыя рамесныя паслугі. А Хведар Мароз рамесным спосабам нават прадукуе бетанняркі. Усе рамеснікі маюць гаспадаркі.

Многа ў Стараберазове добрых гаспадароў, якія атрымоўваюць высокія ўраджаі і добрыя вынікі ў жывёлагадоўлі. Да перадавых гаспадарак належыць гаспадарка сям'і Дзенісюкоў (Анатоля, Рыгора і Раісы). У іх 6 дойных кароў ды адкормліваец-

(Працяг на стар. 4)

## Праз тыдзень у "Ніве"

**Што будзе ў Міхалове? ● І ў песні і ў працы ● Куды падзецць мільёны? ● Чэслаў Неман у Беларусі ● Новая публікацыя аб Белавежы ● Нарва ● Што новага ў Васількоўскай гміне? ● З жыцця клуба БГКТ у Варшаве ● Сустрэча ў бельскім ліцэі ● Нацыянальная палітыка II Рэчыпаспалітай ● Весткі з Арэшкава, Гайнаўкі, Бельска, Крынак, Нараўкі, Чаромхі, Тапаркоў ● Калі сніцца блакіт ● Песня „Port piratów".**

## ШТО НОВАГА?

# Грошы не пахнуць!

У апошні час газеты краін Лацінскай Амерыкі ўсё часцей стракацяць публікацыямі, прысвечанымі выкрыццю махінацый фармацэўтычных кампаній. У пагоні за нажывай дзялкі гэтых кампаній не грэбуюць ніякімі сродкамі. „Грошы не пахнуць“ — гэты дэвіз крымінальнікаў стаў для іх асноўным кіраўніцтвам. Людзі пакутуюць ад неўрастэніі — калі ласка, вось таблеткі для супакаення. Няма апетыту? І тут зноў прыходзяць на „дапамогу“ тыя, для каго хрумсценне грашовых асігнацый даражэй за ўсё на свеце.

Пяць лякарственных прэпаратаў, а іменна — вінстрол, нетацыд, канмел, раўдыксін і авулен — зняты з продажу ў Злучаных Штатах, таму што прызнаны вельмі шкоднымі. У той жа час яны рэкламуюцца ў лацінаамерыканскіх краінах як універсальныя сродкі ад многіх хвароб. Мексіканская газета „Соль дэ Мехіка“ адзначае, што амаль усе гэтыя лякарствы, якія ставяць пад пагрозу жыццё людзей, выpабляюцца ў лабараторыях, якія належаць замежным, як правіла, паўночнаамерыканскім, кампаніям.

Выпуск медыкаментаў у Венесуэле амаль на 90 працэнтаў знаходзіцца пад кантролем замежных кампаній, галоўныя канторы якіх знаходзяцца ў ЗША. Дырэктар Венесуэльскага інстытута па пытаннях спажывання Рауль Біская заявіў, што засілле замежных манаполій у нацыянальнай фармацэўтыцы вядзе да вялікай небяспекі для здароўя і жыцця спажыўцоў. Ён перадаў Камісіі па пытаннях аховы здароўя спіс медыкаментаў падазронай якасці. У некаторых лякарствах, як паказалі вынікі аналізу, знаходзілася значная колькасць атрутных рэчываў.

У калумбійскім горадзе Калі памерлі 4 чалавекі. Усе яны ўжывалі таблеткі, якія настойліва рэкамендуюць „інстытуты пахудзення“. Як высветлілася ў ходзе следства, гэтыя таблеткі разбураюць нервовую сістэму. Некаторыя пацыенты „інстытутаў“ пасля заканчэння курсу лячэння скончылі жыццё самагубствам. Прычыны? Абвастрэнне дэпрэсіўнага стану.

Непаўторная шкода, наносімая здароўю людзей лякарствамі, уласцівасці якіх недастаткова вывучаны, выклікае рашучыя пратэсты грамадскасці многіх лацінаамерыканскіх краін. У некаторых з іх прымаюцца ўжо радыкальныя меры, мэта якіх пакончыць з дзейнасцю замежных фармацэўтычных кампаній. Так, міністр аховы здароўя Перу заявіў, да прыкладу, што ў краіну забаронен увоз шэрагу лякарстваў, характар уздзеяння якіх на чалавечы арганізм недастаткова вывучаны ці выклікае сумненні. У іншых краінах уводзіцца такі парадак: перш чым паступіць у шырокі продаж, медыкаменты павінны быць старанна вывучаны і мець заключэнне кампетэнтных асоб.

**Б. Баркоў**

# Дарагія гангстэры

На дарогах амерыканскага штата Фларыда з'явіліся шматлікія шчыты з надпісам: „Ад трох гадоў да пажыццёвага“.

Што б гэта магло значыць? А вельмі проста: мясцовыя дзялкі гэтак далікатна стараюцца застрашыць рабаўнікоў і гангстэраў. Маўляў, чытайце, якая суровая кара вас чакае.

Устаноўка такіх шчытоў абышлася фларыдскім бізнесменам у кругленькую суму: адзін мільён долараў. Дарагія, аказваецца, рабаўнікі і гангстэры.



# З ВІЗІТАМ ДРУЖБЫ НА БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

Са шчырай радасцю і сапраўдным задавальненнем адзначаем, што шлях візіту дружбы ў СССР польскай партыйна-ўрадавай дэлегацыі, якую ўзначальваў I сакратар Цэнтральнага Камітэта ПАРП таварыш Эдвард Герэк, на гэты раз праходзіў праз Савецкую Беларусь. Правадыры нашай партыі і польскага народа найперш наведалі сталіцу БССР, горад-герой Мінск, пабывалі ў яго новых жыллёвых кварталах, а пасля наведання Музея Вялікай Айчыннай вайны Эдвард Герэк вось так гаварыў аб уражаннях польскай дэлегацыі:

„Як жа ж кантрастным з'яўляецца супастаўленне сённяшняга, прыгожага, жыццерадаснага Мінска з воблікам вашага горада-героя, варварскі разбуранага гітлераўскімі захопнікамі“.

Таксама і пабыўка ў Доме-музеі I з'езду Сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі Расіі, якая сталася асновай ленінскіх рэвалюцыйных сіл, выклікала ў нашай дэлегацыі пачуцці пралетарскай еднасці ў барацьбе польскага і беларускага народаў з царскім прыгнётам за справядлівы грамадскі лад. З класавай ацэнкі нашых суседскіх суадносін у мінулым, як адзначыў Эдвард Герэк, вынікае цяперашняе сяброўства і ўзаемная блізкасць польскага і беларускага народаў. Няма між намі ніякіх супярэчлівых спраў і праблем. Нашы суадносіны былі канчаткова і назаўсёды вырашаны — і тут зноў спашлемся на словы Эдварда Герка — на аснове самаакрэслення, якое зараз жа пасля вайны расчысціла кожнаму з нашых народаў свой шлях у будучыню.

Цяпер спалучае нас цеснае супрацоўніцтва ва ўсіх галінах гаспадарчага і грамадска-культурнага жыцця. Спрыяльную аснову стварае для гэтага дынамічнае развіццё Савецкай Беларусі. Паводле слоў I сакратара кампартыі Беларусі, Пятра Машэрава, гаспадарка БССР на працягу апошняга дзесяцігоддзя амаль тройчы павялічыла свой эканамічны патэнцыял. Сучасны яе характар, гаварыў тав. П. Машэраў, вызначаюць тыя галіны прамысловасці, якія ўвасабляюць самы высокі ўзровень навукова-тэхнічнага прагрэсу, а ў сельскай гаспадарцы Савецкая Беларусь паспела ўжо ажыццявіць мадэль вялікатаварных, высокамеханізаваных, сацыялістычных па форме агракомплексаў, якія характарызуюцца высокай рэнтабельнасцю.

Такую, агульна кажучы, сучасную Беларусь убачыла польская партыйна-ўрадавая дэлегацыя. І таму ў выступленні Эдварда Герка на мітынгу дружбы на Мінскім трактарным заводзе знайшліся таксама словы аб зацікаўленні нашых гаспадарчых дзеячоў цесным супрацоўніцтвам між польскімі і беларускімі прамысловымі прадпрыемствамі на аснове роўнага партнёрства і ўзаемнай шматбаковай карысці.

Ужо зараз польская прамысловасць мае свой удзел у пабудове на Беларусі цукровых заводаў і дрэваперапрацоўчых камбінатаў. Прымаем таксама ўдзел у пабудове новаполацкага нафтаправода, які праходзіць праз Беларусь і Літву, а за гэта атрымаем ад Савецкага Саюза звышпланавыя пастаўкі так патрэбнай нам нафты.

Ад Савецкай Беларусі ў нашу краіну ўжо шмат гадоў паступае калійная соль, якую здабываюць у раёне Салігорска. У нашых крамах часта паяўляюцца халадзільнікі, ручныя гадзіннікі, тэлевізары і фотаапараты з Мінска. На палях працуюць трактары з фабрычным знакам „Мінск“.

І яшчэ адна, чыста беластоцкая асаблівасць нашага добрасуседскага супрацоўніцтва ў галіне эканомікі. Абед мы варым на полымі з ваўкавыскага газа, а ў нашых дамах раз'ясняе вячэрні змрок электраэнергія, якая паступае з мясцовасці Рось. Аб гэтым варта ведаць.

Ёсць на беларускай зямлі адна мясціна, дзе асабліва моцна б'ецца сэрца кожнага паляка. Гэта Леніна. І там пабывала наша партыйна-ўрадавая дэлегацыя. Для старшыні Рады Міністраў ПНР, Пятра Ярашэвіча, было гэта падарожжа да дзён гістарычнай бітвы, у час якой і яму — афіцэру-касцюшкоўцу — давялося тут ваяваць.

Паяўленне польскіх гасцей усюды выклікала небывалае зацікаўленне беларускага насельніцтва. Так было на цэлым шляху падарожжа нашай дэлегацыі па Савецкай Беларусі. А калі на мітынгу на Мінскім трактарным Эдвард Герэк запытаў, ці патрэбны прысутным перакладчык, усе адгукнуліся, што добра разумеюць па-польску. І сапраўды ўсё абыйшлося без афіцыйнага перакладу.

Наша дружба мае глыбокія карэнні, і ўзаемнае зацікаўленне шырокага грамадства справамі свайго суседа праяўляецца штодзень і на кожным кроку. Найлепшы доказ гэтаму — вялікі поспех Дзён польскай літаратуры ў БССР, а таксама пастаяннае прыгранічнае супрацоўніцтва, пра якое таксама ішла гутарка ў час сустрэчы таварышаў Э. Герка і П. Машэрава. Гэтае супрацоўніцтва ацанілі яны як з'яву каштоўную і патрэбную.

Пабыўка польскай дэлегацыі на чале з Эдвардам Геркам на беларускай зямлі назаўсёды застанецца ў сэрцах беларусаў. (вр)



*Музей савецка-польскай баявой садружнасці ў Леніна.*

## ХРОНІКА

■ 6 лістапада ў памяшканні ГП БГКТ адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 59 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. З дакладам выступіў старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ Міхась Хмялеўскі. У мастацкай частцы выступілі дэкламатары і мясцовы харавы калектыў „Каласкі“.

■ 6 лістапада на ўрачыстым вечары з нагоды гадавіны Вялікага Кастрычніка харавы калектыў з Дубяжына і эстрадная група з Плёсак выступалі ў Нарве.

■ Нядаўна адбыліся пасяджэнні праўленняў гурткоў БГКТ у Барысаўцы, Трывежы, Нарве, Адрынках, Сацах, Трашчотках, Катлах і Райску. Абмяркоўвалася дзейнасць у асенне-зімовым перыядзе.

■ 13 лістапада ў Ляшуках адбылася ўрачыстасць — ляшукоўскі гурток БГКТ запрасіў у сваю вёску членаў гуртка БГКТ з вёскі Скупава. У сардэчнай, сямейнай атмасферы гурткі абмяняліся вопытам у культурна-асветнай працы. Спатканне закончылася танцавальнай вечарынай. (мх)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 4.XII.** 6.00 RTV szk. śred. Mat. 6.30 Biolog. 7.00 Tech. Rol. J. pol. 7.30 Upr. rośl. 9.20 Pr. dnia. 9.25 Red. szk. zap. 9.35 Trasa. 10.00 Czerw., żółte, ziel. 10.10 Studio 2.

—o—

**Niedziela — 5.XII.** Techn. Rol. J. pol. 7.25 Upr. rośl. 7.55 Nasze spotkania. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.40 Sport dla wszyst. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 „Wielkie bitwy historii'' odc. pt. „Bitwa pod Austerlitz'' — film dok. fr. 11.35 Z kamerą wśród zwierz. 12.05 Dziennik. 12.25 Rolnicze rozmowy. 12.55 Żywoty instrumentów. 14.05 Dla dzieci. 14.50 Los. Duż. Lot. 15.05 Między nami jaskiniowcami — film anim. USA. 15.30 Wielka gra. 16.30 Sport. 17.50 Próba ognia — film fab. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.40 Bajka dla dor. 20.50 Wojna i pokój — film ser. ang. 21.40 Claude Franceis i jego goście — pr. rozr. 22.35 Sport.

—o—

**Poniedziałek — 6.XII.** 12.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.45 Siedemnaście mgnień wiosny — film ser. ZSRR. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Teatr Telewizji: William Gibson „Dwoje na huśtawce''. 22.20 W mikołajkowym nastroju — pr. estrad. 23.10 Dziennik.

—o—

**Wtorek — 7.XII.** 6.00 Tech. Rol. Hod. zwierz. 6.30 Mech. rol. 9.00 Mat. dla najmł. 11.30 Wojna i pokój — film ser. ang. 13.25 Tech. Rol. — Mat. 14.30 Chem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.50 Lekt. Pegaza. 18.15 Świat i Polska. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Wenecja, księżyc i Ty — film fab. wł. (komedia). 22.30 Balety polskie. 22.50 Dziennik.

—o—

**Środa — 8.XII.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Chem. 9.00 Dla szkół. Fiz. kl. VI. 11.05 Hist. kl .VII. 12.00 Chem. kl. VIII. 12.45 Tech. Rol. Chem. 13.25 Upr. rośl. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.55 Andrzej i Eliza — pr. rozr. 18.35 Komicy niemego ekranu. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Filmy Bergmana: Persona. 22.05 Sport. 22.50 Dziennik.

—o—

**Czwartek — 9.XII.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół: Przysp. obr. kl. VIII i I lic. 11.05 J. pol. kl. VII. 12.00 Decyzje piętnastolatków. 12.55 J. pol. kl. IV lic. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Turniej z Bratkiem. 18.00 Patrol. 18.20 Fakty, op., hip. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 07 zgłoś się — odc. III filmu ser. 21.40 Pegaz. 22.25 Pół godziny z Wiesławem Gołasem. 22.55 Dziennik.

—o—

**Piątek — 10.XII.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Hod. zwierz. 11.05 Dla szkół: Wych. techn. — kl. I—III lic. 12.00 Wych. ob. kl. VIII. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.20 Biolog. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Dla każdego coś morskiego. 18.00 Inf. Wyd. 18.20 Eureka. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.40 Miłość Aloszy — film fab. radz. 22.05 150 lat Cegielskiego — pr. rozr. 23.00 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 3.XII** — 8.20 Spektakl. 16.40 Nasza biografia. Rok 1921. 17.55 Film fab. 19.30 Panorama film. 21.00 Gimnastyka art. Puchar Interwizji.

**Sobota 4.XII** — 7.30 Koncert. 11.25 Film fab. 12.50 Hokej. Spartak — Traktor. 16.55 W świecie zwierz. 17.55 Film fab. 19.30 Gimnastyka art. Puchar Interwizji. 20.45 Koncert.

**Niedziela 5.XII** — 11.30 Film fab. 15.20 Cyrk. 16.15 Filmy anim. 16.40 Klub film. 17.55 Film fab. 19.30 Pr. rozr. (Ostankino).

## KINO

**Białowieża** Lady Caroline Lamb — ang. 7—8. Bądź z nim szczęśliwa — radz. 9—10. Z podniesionym czołem — USA 11—12.

**Bielsk Podl.** Chintawon — USA 7—8. Motylem jestem — pol. 9—10. Maria — szwedz. 11—12.

**Czyże** Halo taxi! — NRD. Kalendarz warszawski — pol. 8—12.

**Dubicze Cerkiewne** Ostatni wiosenny śnieg — wł. Przeznaczenie ma imię Kamila — czes. 8—12.

**Gródek** Lady Caroline Lamb — ang. 11—12.

**Kleszczele** Kasztany miłości — wł. 7—8. Na niebie i na ziemi — pol. 9—10. Ostatni skok gangu Olsena — duń. 11—12.

**Michałowo** Dziewczyna z laską — ang. 7—8. Synowie szeryfa — USA 9—10. Noc na Karlsztejnie — czes. 11—12.

**Mielnik** Kraksa — wł. 8. Akcja Bororo — czes. 11—12.

**Milejczyce** Trzy orzeszki dla kopciuszka — czes. 7—8. Magelan powraca — rum. 9—10. Skazany — pol. 11—12.

**Narew** Był sobie glina — fr. Julia, Julka, Juleczka — NRD — 8—12.

**Narewka** Jesień debiutantów — rum. Anna i komandor — radz. 8—12.

**Nurzec** Białe słońce pustyni — radz. 7—8. Niewygodny kochanek — wł. 9—10. Nocne widma — ang. 11—12.

**Orla** Iwan Kondarew — bułg. Zdradzieckie gry miłosne — czes. 8—12.

**Rajsk** Znikąd do nikąd — pol. Podróż — wł. 8—12.

B.Z.Graf. Zam. 2827 F-4

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 215


## БЛІЗКАСЦЬ ДАЛЁКАГА

### ВОСЬМАЕ

*Над вадою схіліліся*
*Вербы-літаніі.*
*Ціша у цішы,*
*Гранне у гранні.*
*Усё сёння далёкае*
*Блізкім мне стала,*
*Цябе мне замала*
*І свету мне мала.*
*У вербах і ў нас*
*Тое ж самае гранне.*
*Над вадою схіліліся*
*Вербы-літаніі.*
*Над вадою схіліліся*
*Бербы-літаніі.*
*Вербы пачуццяў,*
*Вербы жаданняў —*
*Вербы сумоты*
*Глыбокай, глыбокай,*
*Дзяўчыны вярбе*
*Маёй сінявокай.*
*Вербы, як крылы*
*Анёлаў журботных,*
*Вербы спакойнага*
*Вечнага лёту.*
*Над вадою схіліліся*
*Вербы-літаніі,*
*Як паэтэсы*
*З лірычным прызнаннем,*
*І пішуць на люстры*
*Элегію-вечнасць,*
*Пішуць журбою*
*Сардэчнай, сардэчнай...*
*Над вадою схіліліся*
*Вербы-літаніі —*
*Ціша у цішы,*
*Гранне у гранні.*

### ДЗЕВЯТАЕ

*Спяшаўся, мабыць, час.*
*Таму я апаздаў.*
*І зроблена не ўсё*
*І зроблена не так.*
*Гарыць, гарыць*
*Далёкая звязда*
*І кліча, кліча ўдаль*
*Маёй надзеі птах.*
*А можа гэта ўсё*
*Толькі ілжы-хрысты —*
*Анёлы тых надзей,*
*Што праўдаю былі,*
*Ляжаць даўно ў гразі,*
*Як мёртвыя лісты,*
*Чакаючы слязы,*
*Чакаючы былін...*
*О не! Пакуль яшчэ*
*Рука пяро бярэ —*
*У сэрцы, значыць, ёсць*
*І песня, і сляза —*
*Дык трэба гаснуць мне*
*І трэба зноў гарэць,*
*І многа раз маўчаць,*
*І многа слоў сказаць.*

### ДЗЕСЯТАЕ

*Я дзякую табе за ўсе лісты,*
*Якіх ты мне не напісала.*
*Прайшоў туман блакітнасцю густы*
*І вылечыў мяне памалу.*
*Калі б мяне хто сёння запытаў:*
*Кахаеш ты ці не кахаеш?*
*Нічуць я не змяніў бы, не салгаў,*
*Калі б сказаў яму — не знаю.*
*Ды не пярэчу, што яно было*
*І мне дало пачуццяў школу,*
*І як туман нядзельны адплыло,*
*Пакінуўшы ў душы асколак.*

### АДЗІНАЦЦАТАЕ

*Пачынаюся там,*
*Дзе канчаецца поле.*
*Дзе вусны чароту*
*Цалуюцца з ветрам.*
*Пачынаюся там,*
*Дзе гранічыць таполя*
*Каронаю з небам*
*І карэннямі з нетрай.*
*Пачынаюся там,*
*Дзе канчаецца гоман;*
*Я яго прадаўжэннем*
*І радасным плачам.*
*Пачынаюся, дзе абрываецца*
*Промень*
*На далоні зямлі,*
*Як ад радасці здача.*

**Алесь Барскі**

## Прага незнікаючая

У ночы дажджом шумячай,
Вочы тваё толькі блакітнелі.
Зрэнкі нашыя, затапляючыся ў сабе,
Ці... супольны свет з двух асобных будавалі?
Ці выкрэслівалі адзіны шлях?

Не было тваіх, ні маіх — ног, ні рук,
Усмешак ні жэстаў.
З плачучым увесь час небам і зямлёй
Паказвалася, што вочы губляюцца ў небыццё.

І нішто не было важнае. Бо нічога не было.
Толькі твае вочы, заўсёды ўглядаючыеся,
Праз якія — як вароты — гэтак вельмі жадала б
Увайсці і... астацца ў табе.

**Варвара Л. Кваніш**

* ✻ *

*ты свет*
*хацела б*
*развесяліць*
*словамі*
*усмешкай*
*вачыма*
*вясёлымі*
*быццам вясна*
*падумай*
*ён*
*такі вялікі*
*ён такі*
*нялюдскі*
*і моцны*
*а ты*
*адна*

**Агнія**

## ВІЗІТ

Яна так чакала. Чакала таго дня, калі пераступіць парог яго дома. Яе моцна пабуджаная фантазія не магла выразна намаляваць вобраз таго дома і ў гэтым вобразе яго. Знаёмы і незнаёмы ёй чалавек здаваўся такім вялікім, захапляючым чалавекам, што зусім немагчыма было ўявіць у сваіх думках яго ўласны куток.

Амаль у кожнай галіне ён мог сказаць нешта цікавае, арыгінальнае, уласнае. Яна, галодная шчырых кантактаў з людзьмі, вельмі перажывала багатыя з ім сустрэчы. Тут ніколі не было канчатковых вывадаў, заўсёды выступала месца адкрытае. Яны даволі добра разумелі адзін другога.

У нейкім моманце яна ўсведаміла вялікую сімпатыю да гэтага чалавека, скромнага і добрага. А яшчэ пазней адчула, што ён стаў ёй чалавекам блізкім.

Запрашэнне да яго яна ўспрыняла з вялікай радасцю. Доўга адцягвала з візітам, само чаканне было для яе нечым вялікім, прыемным.

І вось наступіў гэты дзень.

Яна пераступіла парог яго дома. Першае ўражанне — вялікі, велізарны пакой і многа, многа кніжак. Кніжкі, кніжкі, кніжкі... Яна адчула, як гэты чалавек вельмі многа працуе над сабой. Тут ён сказаў, што праца заглушае яго вялікую самотнасць.

Доўга яна была пад уражаннем гэтай сустрэчы. Цяпер наступілі для яе працавітыя дні. Няма самотнасці...

Яна рашыла многа, многа працаваць.

**Надзея Артымовіч**

* ✻ *

З неба
дождж сіта зрабіў
у дзень
цёмны ад хмараў
слязлівых.
Выкідаюць ваду
на абшырную зямлю,
адбіваюцца
ад бубна
палёў і лугоў,
пажаўцелых
ад восені
заядлай на колер зялёны...
Як захацелася б мне
пад дождж гэты
ўцячы,
зачапіцца за халодныя
струі і пачуць,
як пульсуе
жыццём
дарагая зямля,
разараная
небам пахмурным.

**Юрка Харкевіч**

* ✻ *

Ніхто нэ можэ
Даці шчасце другому

Бліського шчасця
бэз смутку і жалю

Ніхто нікому
Нэ зробіт урэду

Такого як сам
собе штодня нэсэш

**Ваву**

* ✻ *

За летам лодак рад смуткуе.
Ліствой заплакалі галіны.
З кім у дарогу паплыву я?
Хіба ўжо толькі з успамінам.

Ты адплыла, астаўся з марай,
Як Рабінзон пасля крушэння.
Блукаю ў восеньскім пажары,
Я сам таксама ўжо асенні.

**Віктар Швед**

*не гавары нічога*
*вочы хай*
*гавораць*
*няхай гавораць*
*вочы*
*не забівай*
*цішыні*
*асеўшай ў сэрцах*
*дрыготкіх*
*ганарыстых*
*а ўсё ж пакорных*
*далоні*
*мне дай*
*маўклівыя*
*свой твар утулю*
*будуць ведаць*
*усё*
*маўчы*
*мае мары*
*сумам*
*палоняць палі*
*у пахмурным небе*
*бачу вочы твае*
*шэрыя з журботы*
*неба*
*збалелае восенню*

**Вераніка Леанюк**




## Хрысціна Саўко



Нарадзілася я 3 красавіка 1961 года ў вёсцы Лука, у сям'і селяніна.

У верасні 1968 года я пайшла ў першы клас падставовай школы ў Луцэ, а ў чэрвені 1976 года я закончыла падставовую школу. Цяпер вучуся ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове.

Вершы я пачала пісаць, калі перайшла ў восьмы клас. Спачатку пісала толькі па-польску, потым пачула страшэнную ахвоту выказацца на роднай мове — па-беларуску, бо ўсё ж такі гэта мова, на якой я сказала першае слова.

Цяпер пішу я вершы і апавяданні — у залежнасці ад таго, як прыйдзе натхненне — па-польску ці па-беларуску.

## СТАІШ

*думаеш аб тым*
*што*
*было а што будзе*
*і што ніколі не паўторыцца*
*успаміны пра цара*
*слаўную каралеву*
*нават забудзешся*
*пра сябе*
*пра жыццё сваё*
*якое будзе здавацца*
*табе невыгодным*
*потым*
*як здумаеш пра ўсё*
*што было*
*і не было*
*прыпомніш сабе*
*і ўсміхнешся*
*успомніцца з*
*гадоў маладых песня*
*ты ўстанеш*
*і рукі падымеш угору*
*і забудзешся пра тое*
*што не павінна было*
*увайсці ў аснову жыцця твайго.*

**Хрысціна Саўко**

## Сказка о моіх повротах на вёску

*а як*
*прылечу я*
*з чортовым вэсіелём*
*на юзіковскі сінокуос*
*крыжом мэнэ повстрычают*
*і як віедьму прожэнут*

*а як*
*сяду я в короні*
*з круоль — круольком моім*
*на сіэна*
*на стогові*
*розсміются з мого трону*
*абдыкую і зжэнут*
*в муой край ідэалістычны*
*до жыця нэпрактычны*

*за сіміютылёма языкамі*
*будэм жыті*
*як у Бога за порогом*
*в двэры добіватісь*
*квасным віноградом обжыратісь*
*пальці в жыці умочаті*
*і так вэльмі скучаті*
*по сэлі скучаті*

**Зося Сачко**

* ✻ *

я знаю
— абсалютна ўпэўнена
ў адной толькі рэчы
цень мой заўсёды верны

ідзе за мною
ад нараджэння
(мы нарадзіліся разам)
і праз жыццё
— да смерці
(таксама разам)
я ўдзячна яму за
упэўненасць

**Ірэна Баравік**

# ТРЫБУНА чытачоў




## Вучоны арнітолаг

Ведаюць усе на свеце ды яшчэ паў Амерыкі, што восенню мінулага года я быў у санаторыі ў горадзе Калобжэг. Кажучы праўду, дык я туды паехаў не з мэтай навуковых доследаў, а лячыць нервы і рэўматызм. Аднак давялося забаўляцца і ў вучонага. Людзей з'ядае прага ведаў і яны шукаюць кагосьці, хто ў данай галіне быў бы вучоны, ды засыпаюць беднага рознымі пытаннямі.

Так давялося і мне. Толькі адкуль людзі адразу пазнаюць, хто кім з'яўляецца?... Ішоў я аднойчы па пляжу і нагнуўся, каб паглядзець на марскія хвалі, якія, нібы пакорныя сабакі, паўзлі да маіх ног. Думаў: якая прыгожая наша прырода... З гэтай думкі вырваў мяне нейкі мужчынскі голас. Я агледнуўся. Стаяў за мною чалавек і па-шлёнску пытаў: „Скажыце, як яны гнёзды ўюць?“ Пры тым тыкаў ён пальцам у неба, паказваючы на кружыўшыя над нашымі галовамі чайкі, „А, — кажу, — чайкі, ды яны ўюць гнёзды на вадзе“. „Як гэта на вадзе, — пытае шлёнзак, — гэта ж немагчыма, бо яйцо згіне або разаб'ецца аб лодку“. „Не, — адказваю яму, прыняўшы позу знаўцы, — не зусім на вадзе, а пад вадою“. „Пад вадою? Што вы гаворыце?“ „А от так, — кажу, — пад вадою. Самка нясе яйка, а самец плавае разам з тым яйкам па моры і сцеражэ яго, каб ніхто не ўкраў. Робіць гэта чатыры дні, пакуль самка не нанясе чатыры штукі. Потым абое, значыць, ён і яна, бяруць вяровачкі, сплеценыя з травы, вяжуць тыя яйкі разам і апускаюць на прыбярэжнае дно проста ў мора, там чайка сядае і выседжвае новае пакаленне“. „А доўга яна сядзіць?“ „Пакуль не высядзіць, гэта значыць, чатыры тыдні“. „Галодная?“ „А ці мала ў моры яды?“ „А хто ёй прынясіць яду?“ „Сама зловіць, калі тая будзе праплываць каля самага клюва“, — сказаў я і падумаў: „Усё дарам хоча ведаць“. „Цуды прыроды“, — заявіў мой цікаўны сусед і, махнуўшы галавой, пайшоў сваёй дарогай, гледзячы ў марскую даль.

Не ведаю, можа гэта дзякуючы маёй „вучонасці“ ўсе курортнікі адгэтуль пры сустрэчы са мной знімалі шапкі, а на заканчэнне турнуса аб'явілі мяне самым сімпатычным курортнікам і ўзнагародзілі кніжкай.

Ох, як добра быць вучоным!

**В. Петручук**

## Будні Чаромхаўскай гміны

Тэрыторыя Чаромхаўскай гміны з'яўляецца адным з найбольш спецыфічных раёнаў ваяводства. 60-70 прац. насельніцтва — гэта сяляне-чыгуначнікі. Не ведаю, ці ў 12 вёсках гміны знойдзецца хоць адна, у якой не было б чыгуначніка. А ў такіх, як Кузава, вёска Чаромха, Ставішчы, Вулька Тэрахоўская, дык у кожнай сям'і нехта працуе на чыгунцы. І хоць зямля тут у асноўным 5-6 класаў, людзі жывуць нядрэнна. Чыгунка з'яўляецца галоўнай крыніцай даходаў жыхароў Чаромхаўскай гміны. Таму і няма ў гміне вялікіх поспехаў у сельскай гаспадарцы.

У гэтым артыкуле я хачу паказаць дасягненні жыхароў чыгуначнай Чаромхі, іх клопаты, паказаць перадавых людзей гэтага вялікага калектыву.

Чыгуначнае прадпрыемства „Насычальня“ план свой выканала ў 103,2 прац. А план прадажы і паслуг — у 110 прац. Вагоннае дэпо план перагляду двухвосевых таварных вагонаў перавысіла на 39 прац. Перавозачная служба сярэдні пастой таварных вагонаў выканала толькі ў 99,1 прац., аднак сумножнік працы манёўраў выканала таксама ў 100,2 прац.

Добрую ацэнку маюць чаромхаўскія чыгуначнікі ў раённай дырэкцыі ПКП у Варшаве і цэнтральнай дырэкцыі ў Варшаве. З нагоды Дня чыгуначніка перадавыя працаўнікі атрымалі значкі „Перадавы чыгуначнік“, а прозвішчы 29 заслужаных людзей для Чаромхі былі ўпершыню ўпісаны ў „Кнігу заслужаных“.

Горшы баланс прадстаўляюць вынікі сельскагаспадарчай вытворчасці. План угнаення за першае паўгоддзе выканаены ў 81 прац., план кантрактацыі збожжа — толькі ў 51 прац., а ўраджай чатырох асноўных збожжавых з гектара атрымаўся ў сярэднім 18,4 цэнтнера.

Калі ў ваяводстве выпадае на 100 га 55 штук жывёлы, то ў Чаромхаўскай гміне — толькі 42,1 штукі, свіней выпадае ўсяго 77,7 штукі, у ваяводстве — 90,5 штукі.

Трэба падкрэсліць, што ў гміне ёсць шмат рэзерваў для павышэння вынікаў сельскай гаспадаркі. Датэтуль ляжыць 270 га нявыкарыстанай зямлі дзяржаўнага фонду і 113 га з індывідуальных гаспадарак. Заняцца гэтай зямлёй павінны кааператыў сельскагаспадарчых гурткоў у Кляшчэлях і сельскагаспадарчы кааператыў у Зубачах.

Вышэй прыведзеныя факты не сведчаць, што ў Чаромсе няма людзей з выдатнымі поспехамі ў галіне збожжавых культур ці жывёлагадоўлі. Такія гаспадары ёсць, гэта Дзмітры і Галена Назарук з Вулькі Тэрахоўскай, Вераніка і Мікалай Міхальчук з Вулькі, Яўгенія і Васіль Астапковіч і Янка Зінчук з Чаромхі, Мікалай Маркевіч з Кузавы, Русін і Маркевіч з Беразішчаў.

**Ул. Сідарук**

---

Асаблівую ўвагу разведчыкаў прыцягвалі старанна замаскіраваныя на платформах саломай ці сенам грузы.

Неўзабаве з Баранавіч, Ганцавіч, Брэста паступілі першыя трывожныя паведамленні: гітлераўцы хаваюць пад саломай балоны светла-карычневага колеру — балоны з атрутнымі рэчывамі!

Ведаў Арлоўскі, што фашысцкая прапаганда адкрыта гаварыла пра „новую звышмагутную і звышсакрэтную зброю“, якую мае Германія. Стараючыся ўзняць маральны дух сваіх салдат, які вельмі ўпаў пасля сталінградскай катастрофы, гітлераўскія афіцэры ўсё часцей пагаворвалі пра „жудасны сюрпрыз“, што падрыхтаваў фюрэр бальшавікам.

Усё гэта прымушала думаць, што гітлераўцы рыхтуюцца развязаць хімічную вайну на ўсходнім фронце. Арлоўскі адразу паведаміў у Цэнтр пра трывожныя факты, звязаныя з атрутнымі рэчывамі, а сам даручыў разведчыкам, асабліва тым, хто працаваў у немцаў на чыгунцы, пільна сачыць за замаскіраванымі перавозкамі.

Пройдзе час, і чалавецтва даведаецца, што Гітлер сапраўды аддаў быў загад аб пастаўцы атрутных рэчываў у войскі. А іх гітлераўская Германія мела шмат. У адным толькі 1943 годзе гадавая магутнасць яе хімічнай прамысловасці складала каля 180 тысяч тон розных атрутных рэчываў. Гэта было ў паўтара раза болей, чым скарысталі іх за ўсе гады краіны, што ваявалі ў першую сусветную вайну.

Фашысцкія канібалы чакалі моманту, каб ажыццявіць свой жудасны „сюрпрыз“.

Сюрпрызу не атрымалася. Дзякуючы рабоце савецкіх разведчыкаў, сярод якіх быў і Кірыла Арлоўскі, Савецкі ўрад і камандаванне Чырвонай Арміі своечасова даведаліся аб падрыхтоўцы фашысцкай Германіі да хімічнай вайны супроць СССР. І калі ў красавіку 1943 года Чэрчыль паведаміў І. В. Сталіну, аб тым, што да англічан „даходзяць чуткі аб намеры немцаў ужыць газы на рускім фронце...“, Сталін адразу ж адказаў яму: „Вашы звесткі аб намеры немцаў выкарыстаць газы на нашым фронце таксама пацвярджаюцца звесткамі, што паступаюць да нас. Безумоўна, я цалкам падтрымліваю Вашу прапанову, каб Вы выступілі з папярэджаннем Гітлеру і яго саюзнікам і прыгразілі б ім моцным хімічным нападам у выпадку іх газавага нападу на нашым фронце. Савецкія войскі ў сваю чаргу падрыхтуюцца да адпору“.

Гнеўны пратэст сусветнай грамадскасці і сур'ёзныя папярэджанні дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі — СССР, ЗША і Англіі — не дазволілі Гітлеру зрабіць гэта.

(Працяг будзе)

## Вёска Лука

Вёска Лука ляжыць над рэчкай Нарвай у гміне Нараўка. Тут вясной і летам вельмі прыгожа. Добра можна адпачыць над рэчкай, пазагараць на лузе сярод духмяных кветак.

Калісьці ў вёсцы было многа моладзі — спявалі па вечарах, дык несліся іх галасы далёка, аж у суседнія вёскі. Сёння няма ўжо іх так многа — працуюць і вучацца ў гарадах.

„Але ў клуб „Рух“, — гаворыць клубовая Галіна Лукша, — людзі прыходзяць ахвотна“. Варта назваць некалькі асоб, якія актыўна ўключыліся ў працу клуба. Гэта: Стоцкі Іван, сын М., Лобач Мірэк, Іван Шока. Таксама школьнікі з восьмага класа стараюцца заўсёды ўключыцца ў культурнае жыццё вёскі. Аля Лукша расказвае, што на такіх школьнікаў, як Яўгенія Харкевіч, Аля Ціванюк, Яўгенія Саўко, Ліля Жукоўская, Аліна Федарук, Гражына Панікоўская, Ірэна Анцутка, Аліна Семаковіч можна заўсёды лічыць, яны не падвядуць. Для прыкладу вянок на гмінныя дажынкі быў зроблены (самы лепшы) рукамі лучанскай моладзі. Вядомы таксама лучанскія салісткі, дуэты, якія спяваюць старынныя песні.

Рада клуба мае і свае клопаты. Не можа дапрасіцца, каб купілі магнетафон, новы праігрывацель, бо стары дзесяткі разоў папраўлялі і прыгодны ён толькі дзеля таго, каб выкінуць яго. Шкада грошай на новыя рамонты. Просьбу лучанскай моладзі кірую кіраўніцтву „Рух“ у Бельску. (В. Б.)

## Здароўе ў гміне

Сёння разгледзім, як справы здароўя насельніцтва выглядаюць у гміне Нараўка. Гміна вельмі вялікая. Тут многа лясоў, глеба слабая. І таму людзі шукаюць працы па-за сельскай гаспадаркай.

У гміне 15 дзяржаўных прадпрыемстваў. Самыя буйныя гэта: керамічны завод у Ляўкове Старым, надлясніцтва „Броўск“ у Грушках, перагрузачныя станцыі, ГС, СКР у Міклашэве і інш.

У гміне налічваецца каля 6700 жыхароў, з якіх каля 4 850 асоб у вытворчым узросце. З гэтай колькасці звыш 40 прац. працуе па-за сельскай гаспадаркай. Асаблівасць гміны — гэта вялікая колькасць людзей, якія, апрача апрацоўкі зямлі, працуюць яшчэ на дзяржаўных прадпрыемствах. Статыстыка паказвае, што з кожным годам нарастае адыход людзей з сельскай гаспадаркі, і, такім чынам, павялічваецца колькасць гаспадароў у старэйшым узросце. Улічваючы гэты апошні факт, гміна павінна забяспечыць лекарскую апеку сваім жыхарам. А ў апошні ж час многае змянілася на лепшае. Жыхары гміны карыстаюцца бясплатнай лекарскай апекай, прадоўжанымі мацярынскімі водпускамі, павышанай сямейнай дапамогай. Паказчык смяротнасці ў нас найменшы на Гайнаўшчыне.

Значна зменшылася колькасць захворванняў на інфекцыйныя хваробы. А цяжкія дзіцячыя хваробы, як дыфтэрыт і паліэміліт (гайнэ-медына) практычна не існуюць. Аднак сустракаецца ў гміне многа людзей, якія хварэюць на крываўку і паносы (дзеці), кор (одру), запаленне печані, туберкулёз лёгкіх. Жыхары гміны карыстаюцца парадамі спецыялістаў у Гайнаўцы. Але першы крок робяць да свайго доктара.

На тэрыторыі гміны ёсць гмінны цэнтр здароўя ў Нараўцы і два вясковыя цэнтры ў Ляўкове і Семяноўцы. Тут працуюць два лекары — Галіна і Віктар Мацкевічы, адзін фельчар — Аркадзь Гарустовіч, чатыры медсястры, адна раённая акушэрка. Яны ў першым паўгоддзі 1976 года прынялі 6.192 асобы і наведалі па дамах 535 асоб.

У гмінных цэнтрах здароўя адзін працаўнік займаецца праблемай апекі над людзьмі ў пасляпрадукцыйным узросце. Іх налічваецца 952 асобы. Гэта людзі старэйшыя, часта інваліды. Патрабуюць яны лекарскай і матэрыяльнай дапамогі.

Гледзячы на такую сітуацыю ў ахове здароўя, у гміне нарадзіліся прапановы, якія будуць у бліжэйшы час рэалізаваны:

1) даць працу двум лекарам, аднаму зубному лекару, тром медсёстрам;

2) даць гміннаму цэнтру здароўя аўтамашыну;

3) у зборнай гміннай школе адкрыць лекарскі кабінет;

4) адкрыць лабараторны пункт у Нараўцы;

5) адкрыць аптэчны пункт у Семяноўцы;

6) адкрыць дом спакойнай старасці.

Пра ўсе гэтыя справы гаварылася і на апошняй сесіі ГРН. А калі скажу, што ў канцы гэтага года за 5 372 тыс. зл. будзе адкрыты новы цэнтр здароўя ў Ляўкове, а ў 1981-85 падобны ў Нараўцы, дык ахова здароўя ў гміне будзе арганізавана добра. Улады гміны прысвячаюць гэтай справе многа часу і энергіі.

**Аляксандр Закройшчык**

## Наш клуб запрашае

У клубе ў Зубаве новая прадаўшчыца. Завецца Надзя Петручук. Яна дакладна выконвае свае абавязкі. У клуб прывозяць многа тавараў з Бельска. Можна тут усё купіць, амаль як у краме. Можна таксама пачытаць газеты, паслухаць радыё, паглядзець тэлевізар. Запрашаем у зубаўскі клуб.

**Джэны А.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да заметкі: „НАРАКАЮЦЬ“, „Ніва“ № 39 (1074) ад 26.IX.76 г.**

**Адказвае:**

**GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” W KLESZCZELACH.**

Zarząd Gminnej Spółdzielni „SCH” w Kleszczelach w odpowiedzi na notatkę w sprawie pracy sklepu w Suchowolcach informuje, że sytuacja w chwili obecnej uległa zmianie. Poprzednia sklepowa została zmieniona, a na jej miejsce zatrudniono inną osobę, która dba o ład, porządek i zabezpieczenie towarów. Na dowód dobrej pracy w/w sprzedawcy otrzymaliśmy list z podziękowaniem od mieszkańców wsi Suchowolce.

**Prezes Zarządu GS**
**(—) N. Petelska**

- — -

**Да заметкі: „ЧАМУ ЗАКРЫТЫ БУФЕТ?“ „Ніва“ № 32 (1067) ад 8.VIII.76.**

**Адказвае:**

**GMINNA SPÓŁDZIELNIA „SAMOPOMOC CHŁOPSKA” W NAREWCE.**

W odpowiedzi na notatkę prasową dotyczącą niewłaściwego funkcjonowania bufetu na stacji Narewka, uprzejmie zawiadamiam, że w/w bufet został zamknięty z powodu zbyt małych obrotów oraz nieodpowiednich warunków lokalowych (zbyt małe pomieszczenie i nieodpowiednie warunki sanitarne).

W związku z zamknięciem bufetu uruchomiono sklep w Plancie na 2 zmiany od godz. 7.00—19.00, który jest także czynny w niedzielę od godz. 9.00 do 16.00. Odległość sklepu od stacji około 500 m. Mając na uwadze Zarządzenie Ministra Handlu Wewnętrznego i Usług dotyczące weryfikacji sieci detalicznej Zarząd nie widzi potrzeby uruchomienia bufetu, ponieważ sklep branży spożywczej mieści się w małej odległości i miejscowa ludność oraz dojeżdżający rybacy mogą się dostatecznie zaopatrzyć w sklepie.

**Wiceprezes d/s Handlu**
**podpis nieczytelny**

- — -

**Да заметкі: „СМЕЦЦЕ Ў ЛЕСЕ“ „Ніва“ № 32 (1067) ад 8.VIII. 76.**

**Адказвае:**

**URZĄD MIEJSKI W BIELSKU PODLASKIM REFERAT GOSPODARKI TERENOWEJ.**

W odpowiedzi na notatkę prasową w sprawie wyrzucania śmieci przy drodze przez las pilicki wyjaśniam, co następuje.

W trakcie wizji lokalnej dokonanej w terenie stwierdzono, że śmieci i inne odpadki wysypywane są w zasadzie na doły na drodze gruntowej do wsi Dubiażyn oraz na drodze polnej. Likwidacja tych wysypisk była już kilkakrotnie wykonywana, jednak wciąż bez skutku. Zabezpieczenie kontroli w tym rejonie jest utrudnione ze względu na znaczną odległość od miasta wynoszącą około 2 km.

Obecnie wysypane śmieci zostaną przykryte żwirem, a ponadto ustawiona zostanie tablica informująca o zakazie wysypywania.

**Z up. Naczelnika Miasta**
**inż. Jan Krutelewicz**
**p.o. Kierownika Referatu**

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

